**№159 (1972)**

Пятніца , 27 жніўня 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +19...+21, без ападкаў, уначы — +15...+17, дождж; у Брэсце ўдзень — +16...+18, дождж, уначы — +13...+15, дождж; у Гродне ўдзень — +16...+18, дождж, уначы — +14...+16, дождж; у Віцебску ўдзень — +20...+22, без ападкаў, уначы — +15...+17, навальніца; у Гомелі ўдзень — +20...+22, уначы — +17...+19, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +20...+22, без ападкаў, уначы — +16...+18, навальніца.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Галадоўка спынена...

*Вечарам 25 жніўня старшыня незарэгістраванага Рэспубліканскага страйкама прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі, які знаходзіцца ў гродзенскім следчым ізалятары, спыніў галадоўку. Пра гэта паведаміў яго сын Уладзімір Леванеўскі.*

Галадоўку старшыня страйкама прадпрымальнікаў пачаў 12 жніўня ў знак пратэсту супраць парушэння правоў зняволеных, што ўтрымліваюцца ў СІЗА, і забароны яму азнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы. Рашэнне аб спыненні дадзенай акцыі, паводле слоў Уладзіміра Леванеўскага, яго бацька прыняў з прычыны маючага адбыцца судовага працэсу. На гэтым настойваў адвакат, які лічыць, што яго падабаронны падчас судовых слуханняў павінен быць у добрай фізічнай форме.

Судовы працэс над старшынёй страйкама Валерыем Леванеўскім і яго намеснікам Аляксандрам Васільевым пачаўся ўчора ў Ленінскім раённым судзе горада Гродна. Абодвум прад'яўлена абвінавачанне ва ўчыненні злачынства па артыкуле 368 часткі 2 Крымінальнага кодэксу — публічная знявага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, злучаная з абвінавачаннем ва ўчыненні цяжкага злачынства — злоўжыванне ўладай службовай асобай, якая займае адказную пасаду. Апрача таго, А.Васільеў абвінавачваецца па артыкуле 342 Крымінальнага кодэксу — арганізацыя і актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, у выніку чаго быў парушаны грамадскі парадак.

## КДБ абараняецца ад віцябчаніна

*Судовыя слуханні па іску віцябчаніна Міхаіла Землякова да ўпраўлення Камітэта дзяржбяспекі па Мінску і Мінскай вобласці перанесены на 9 верасня. Рашэнне аб гэтым прынята 25 жніўня судом Цэнтральнага раёна Мінска ў сувязі з неабходнасцю прадастаўлення абодвума бакамі працэсу дадатковых звестак.*

Падставай для іску паслужылі падзеі трохгадовай даўніны. 21 жніўня 2001 года ў мінскую кватэру, якую наймаў актывіст дэмакратычных маладзёжных арганізацый, студэнт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, сын Міхаіла Землякова Юрый, уварваліся шэсць супрацоўнікаў міліцыі. Яны абвінавацілі маладога чалавека ў забойстве міліцыянера і заявілі, што ён захоўвае зброю і наркотыкі. У Ю.Землякова былі канфіскаваны адзенне, запчасткі да камп'ютэра і іншыя рэчы. Пасля ночы ўтрымання ў Партызанскім РУУС яго адпусцілі. Ніякіх прэтэнзій і абвінавачанняў Ю.Землякову праваахоўныя органы больш не прад'яўлялі.

З 2001 года Міхаіл Землякоў вёў перапіску з міліцэйскімі чыноўнікамі, спрабуючы высветліць, па якіх прычынах былі канфіскаваны рэчы і куды яны зніклі. У выніку перапіскі высветлілася, што рэчы знаходзяцца ва УКДБ па Мінску і Мінскай вобласці, і цяпер бацька спрабуе вярнуць іх законнаму ўладальніку.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Беларусаў сярод пацярпеўшых няма

*Паводле аператыўнай інфармацыі, сярод пацярпеўшых у выніку дзвюх авіякатастроф, што ўзніклі ў Расіі мінулай ноччу, грамадзян Беларусі няма. Аб гэтым БелаПАН паведамілі ў консульскім аддзеле Пасольства Беларусі ў Маскве. Цяпер пасольства працягвае збіраць інфармацыю аб гэтых авіякатастрофах.*

Нагадаем, што мінулай ноччу прыкладна ў адзін час адразу два самалёты пацярпелі крушэнне ў Расіі. У Растоўскай вобласці разбіўся самалёт Ту-154 авіякампаніі "Сібір", што накіроўваўся з Масквы ў Сочы. Загінулі 38 пасажыраў і 8 членаў экіпажа. Фрагменты самалёта і астанкі цел знойдзены ў 9 км ад населенага пункта Глыбокі Каменск-Шахцінскага раёна Растоўскай вобласці.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

**СІТУАЦЫЯ**

## Тэхнічны збой альбо палітычныя гульні?

*Трохразовага алімпійскага чэмпіёна Уладзіміра Парфяновіча не ўключылі ў альбом "Беларусь на Играх XXVIII Олимпиады. Афины 2004".*

У альбоме, выпуск якога быў прымеркаваны Нацыянальным алімпійскім камітэтам Беларусі адмыслова да Алімпійскіх гульняў у Афінах, не знайшлося месца кіраўніку Беларускай асацыяцыі каноэ Уладзіміру Парфяновічу. У раздзеле "Руководители федераций видов спорта, представленных в Афинах" — фота ўсіх кіраўнікоў федэрацый, у тым ліку дзяржчыноўнікаў, а здымак Парфяновіча адсутнічае.

Як зазначаюць прадстаўнікі НАКа, прычына гэтага — тэхнічная памылка. На што зласліўцы пачалі кпіць, маўляў, ва ўсім гэтым прасочваецца палітычная падаплёка і наўмысныя дзеянні ўладаў напярэдадні парламенцкіх выбараў... Сам Уладзімір Парфяновіч пракаментаваў сітуацыю з усмешкай: *"Не хочуць ставіць — калі ласка. Мне слава непатрэбная, яна ў мяне і так ёсць. Я б не хацеў тут разважаць пра нейкія палітычныя хітраспляценні, скажу толькі, што я вельмі выразна адмяжоўваю сваю палітычную дзейнасць ад спартыўнай. А калі хтосьці падобныя рэчы блытае і бачыць ва ўсім палітыку, гэта яскрава сведчыць пра ўзровень выхаванасці людзей",* — падкрэсліў Уладзімір Парфяновіч.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**



**ГРОМКАЯ ТЕМА**

# Виновников исчезновений Захаренко, Гончара, Красовского и Завадского ждет Гаага?

*Белорус Александр Щурко, несколько лет назад получивший политическое убежище в Голландии, обратился в Международный уголовный суд в Гааге с просьбой возбудить уголовное дело в отношении некоторых высокопоставленных белорусских чиновников, подозреваемых в причастности к исчезновениям Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского и Дмитрия Завадского.*

*"Когда меня правительство Нидерландов признало политическим беженцем, я обратился к министру-президенту Нидерландов **Виму Коку** с просьбой создать международную комиссию по контролю за расследованием громких исчезновений в Беларуси,* — говорит Александр. — *Президент Нидерландов поручил МИДу изучить данный вопрос. Через некоторое время мне предложили обратиться в Международный уголовный суд, что я и сделал. Также я подал две жалобы в национальные суды Бельгии и Голландии, куда включил и известный доклад **Христоса Пургуридеса**. Теперь жду ответа".*

Следует отметить, что на днях представители общественной комиссии по установлению обстоятельств исчезновения Юрия Захаренко **Олег Волчек**, **Владимир Арестов**, **Александр Микулич**, **Игорь Огурцов** и **Раиса Михайловская** выехали в Германию, где намерены провести ряд встреч с немецкими юристами.

*"Мы передадим им полный пакет документов, необходимых для возбуждения уголовного дела в отношении некоторых официальных лиц Беларуси, подозреваемых в причастности к насильственным исчезновениям,* — говорит юрист Олег Волчек. — *За последние полтора месяца это уже вторая наша встреча с европейскими юристами".*



*Почти пять лет Зинаида Гончар пытается выяснить, что случилось с ее мужем...*

Как известно, Международный уголовный суд, который находится в Гааге, наделен мандатом судить не государства, а физических лиц и привлекать их к ответственности за самые серьезные преступления, вызывающие озабоченность международного сообщества: военные преступления, преступления против человечности, геноцид и другие. Однако, как написано на сайте Организации Объединенных Наций, *"общее заблуждение состоит в том, что Суд сможет судить только тех, кто совершал такие преступления в прошлом, однако дело обстоит иным образом. Суд будет обладать юрисдикцией только в отношении преступлений, совершенных после вступления в июле 2002 года Римского статута Международного уголовного суда в силу".*

Захаренко, Гончар и Красовский были похищены в 1999 году. Получается, Международный суд не будет рассматривать дела о громких исчезновениях в Беларуси?

За комментарием "Народная воля" обратилась к известному адвокату, заместителю председателя РОО "Белорусский Хельсинкский комитет" **Гарри Погоняйло.**

*"Необходимо тщательно изучить юрисдикцию подобных судов, владеть навыками составления процессуальных документов, представления доказательств,* — говорит Гарри Петрович. — *Судя по всему, Александр Щурко всего этого не знает и только мешает делу. Вообще, непонятно кто и для чего гонит политическую пену...*

*Граждане Беларуси не подпадают под юрисдикцию Международного уголовного суда, так как наша страна не подписала Римский Статут.*

*Дело по исчезновению известных людей в Беларуси может быть рассмотрено только по так называемой универсальной уголовной юрисдикции, которой обладают многие национальные суды европейских стран.*

*Кстати, законодательство нашей страны также позволяет привлекать к уголовной ответственности не граждан Республики Беларусь, совершивших преступления международного характера не на территории Республики Беларусь. Речь идет о преступлениях против мира, безопасности человечества и военных преступлениях. К сожалению, далеко не все знают об этом действующем механизме международной защиты прав человека...*

*Мы вместе с женами пропавших активно занимаемся проработкой вопроса возбуждения уголовного дела в одной из европейских стран в отношении отдельных высокопоставленных чиновников Беларуси. Но делаем это абсолютно конфиденциально. Никто не знает, какую страну мы для этого выбрали. Поймите, действует определенная специфика по применению подобных процедур. Эти дела очень щекотливые в политическом плане. Например, в свое время Франция отказалась проводить аналогичное дело против Муаммара Каддафи, потому что у Франции есть свои политические и экономические интересы в Африке..."*

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото photo.bymedia.net**

# Четыре месяца под стражей

*Уже четыре месяца находится в следственном изоляторе КГБ известный политик и общественный деятель Михаил Маринич*

Бывший министр внешнеэкономических связей, экс-посол Беларуси в Латвии, Эстонии и Финляндии Михаил Маринич был задержан в ночь с 26 на 27 апреля. Первоначально Маринича подозревали в незаконном хранении огнестрельного оружия и хищении секретных документов. Впоследствии, однако, ему предъявили только одно обвинение — в незаконном хранении огнестрельного оружия (пистолета ASTRA). На пистолете, между прочим, отпечатков пальцев Маринича не найдено...

Все эти месяцы следственные действия по делу Маринича практически не ведутся, ходатайства защиты, в том числе об изменении меры пресечения, отклоняются. Несмотря на заключение врачей о необходимости госпитализации политика, правоохранительные органы отказываются выпускать его из-под стражи.

*"Четыре месяца задержания отца — это четыре месяца неуклюжих попыток действующей власти опорочить человека, который занял активную позицию. Отсутствие каких-либо процессуальных действий и постоянные отказы на ходатайства адвокатов — лишнее подтверждение политической подоплеки этого дела. Ситуация развивается не в правовом, а скорее в идеологическом поле. Арест отца — это элемент запугивания номенклатуры, чтобы она не смела противостоять режиму. Все это напоминает сталинский режим модели 1930-1950 годов, когда с инакомыслием боролись репрессиями",* — говорит сын Маринича Игорь.

Кстати, подавляющее большинство опрашиваемых Независимым институтом социально-экономических и политических исследований лидеров общественного мнения и экспертов также высказывается в пользу политической версии уголовного преследования Михаила Маринича.

**Михаил СВЕТЛОВ.**

**АСОБА**

# Станіслаў Шушкевіч, пенсія якога 3200 рублёў, выступіў у парламенце Паўднёвай Карэі

Станіслаў Станіслававіч прызнаецца, што наведвае Паўднёвую Карэю рэгулярна на працягу апошніх 15 гадоў. Старшыню Вярхоўнага Савета 13-га склікання, доктара фізіка-матэматычных навук, члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі карэйцы запрашаюць у якасці эксперта па пытаннях ядзернага раззбраення і ядзернага нераспаўсюджвання, а таксама па праблемах аб'яднання Карэі.

У свой першы сёлетні візіт у Карэю Станіслаў Шушкевіч выступаў з лекцыямі перад студэнтамі Сеульскага універсітэта. У другі раз яго слухачамі былі навукоўцы і палітыкі. Апошнім разам Шушкевіч выступаў з дакладам на канферэнцыі ў парламенце Паўднёвай Карэі. Свой даклад беларускі вучоны і палітык чытаў на англійскай мове.

*"Сёлета я нярэдка трымаю накірунак на Усход,* — не без ганарлівасці кажа Шушкевіч. — *Акрамя трох візітаў у Паўднёвую Карэю, была яшчэ паездка ў Японію. На працягу 17 дзён я выступаў з лекцыямі ў розных універсітэтах краіны. Мае публічныя лекцыі адбыліся таксама ў Токіо, Осака, Акінаве, Мацуямі, Хірасіме".*

Аднак на радзіме да заслуг Шушкевіча, мякка кажучы, ставяцца непаважліва. Па-ранейшаму Станіслаў Станіслававіч атрымлівае пенсію ў памеры... ***3 тысячы 200 рублёў***.

Спраўна штомесяц паштальёнка прыносіць гэтыя смешныя грошы на кватэру Шушкевіча. Калі вучонага няма дома, за атрыманыя рублі распісваецца ягоная свякроў.

*"Я прайшоў усе суды, усе інстанцыі,* — кажа Шушкевіч, — *але ў нас усё падпарадкоўваецца волі аднаго чалавека. Закон, адпаведна з якім я як былы старшыня краіны павінен мець прыстойную пенсію, не дзейнічае. А дзейнічае ўказ Лукашэнкі, які з'явіўся яшчэ ў 1997 годзе. Гэтым указам Лукашэнка прадпісаў захаваць мне, а таксама іншым кіраўнікам краіны — **Мечаславу Грыбу, Сямёну Шарэцкаму, Георгію Таразевічу** і **Міхаілу Чыгіру** памер пенсіі, які выплачваўся на той момант — славутыя 3 тысячы 200 рублёў.*

*Не так даўно памёр Георгій Таразевіч. Грыб перайшоў на генеральскую пенсію, Шарэцкі эміграваў у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе атрымаў палітычны прытулак. Я спрабаваў праз суд адстойваць свае правы..."*

Дарэчы, у тым самым указе Лукашэнкі згадваюцца і былыя партыйна-савецкія кіраўнікі часоў БССР — **Аляксандр Аксёнаў, Мікалай Дзямянцей, Вячаслаў Кебіч, Міхаіл Кавалёў, Іван Палякоў, Яфрэм Сакалоў**. Але, у адрозненне ад Шушкевіча, Грыба, Таразевіча, Шарэцкага і Чыгіра, ім *"за асаблівыя заслугі перад народам Рэспублікі Беларусь"* усталявана пенсія ў памеры 75 працэнтаў ад заработнай платы прэм'ер-міністра Беларусі.

*"Прымусіць мяне прынізіцца і выпрошваць пенсію ў чалавека, які паступае не па Канстытуцыі і не па законе, мяне ніхто не можа,* — кажа Станіслаў Шушкевіч. — *Я не хачу атрымліваць пенсію і па ўзросце. Мне законам і па Канстытуцыі як былому кіраўніку прызначана іншая пенсія. Прызначана пажыццёва. І я ўпэўнены, што ў хуткім часе ўсё стане на свае месцы".*



**Марыя ЭЙСМАНТ.**
**Фото photo.bymedia.net**

**МОСКОВСКИЙ АКЦЕНТ**

# Пиночеты тоже проигрывают

**Александр КЛАСКОВСКИЙ,**
**главный редактор**
**"Белорусских новостей"**



В домике Русского ПЕН-центра на Неглинной я преисполнился священного трепета. Вот тут, заметил между делом Александр Ткаченко, генеральный секретарь этого элитарного писательского клуба, мы собираемся на наши посиделки с Битовым, Вознесенским и прочими мэтрами...

Живые классики!

Из нашего разговора выяснилось, что им, увы, неуютно сегодня в своей стране, где сжимается пространство свободы. Как было неуютно в Беларуси Василю Быкову.

*"Властям не нужны "слишком умные",* — резюмирует Ткаченко, узнав от меня последние новости из хроники удушения Европейского гуманитарного университета в Минске.

*"Им нужна рабсила, которая не мудрствуя создавала бы прибавочный продукт. Мол, нечего вам думать — жуйте то, что мы даем",* — продолжает генсек Русского ПЕН-центра.

Чувствуется, что тема наболела. В его стране сегодня тоже все меньше церемонятся со "слишком умными".

И в России, и у нас интеллигенция с тихой грустью констатирует: либеральная идея оказалась не ко двору. В обеих частях виртуального союзного государства демократия — вполне реально — в ауте.

Идет откат во вчерашний день.

Так в чем же причины почти тотальной неудачи демократических реформ на пространстве СНГ?

Отвечая на мой вопрос, седобородый **Алексей Симонов,** глава московского Фонда защиты гласности, философски резюмировал: *"У нас была попытка прервать историю, изменить ее ход. Но история вернулась на круги своя".*

Извечный вопрос: кто виноват? В частности: а надо ли так уж демонизировать правителей? Ведь они закручивают гайки ровно настолько, насколько позволяет сопротивление человеческого материала.

Да, соглашается политолог **Леонид Радзиховский,** дело не только в авторитарных замашках властных элит. А еще и в том, что совковый менталитет оказался гораздо более живучим, чем это думалось когда-то энтузиастам горбачевской перестройки.

*"И Лукашенко — к слову, сильный оратор — мастерски использует живучесть этого менталитета,* — отметил Радзиховский в интервью для "Белорусских новостей". — *Большевики ведь тоже учитывали глубинные психологические установки массы. Дешевая колбаса, дешевое вино, дешевые популистские идеи... Так что традиции "демагогии вульгарис" продолжаются".*

По словам собеседника, популярность Путина в собственной стране тоже ведь во многом строится на тезисе *"он им даст прикурить"*. *"Им"* — это олигархам, чеченским сепаратистам (мочить в сортире!), наглому Западу и так далее.

*"А уж Беларусь,* — добавляет политолог, — *была самой советской республикой, и у вас эти вещи в массовом сознании, видимо, еще сильнее. Или возьмите такой момент: до сих пор многие жители постсоветских стран, в том числе и Беларуси, находящейся в географическом центре Европы, ни разу не выезжали за рубеж. С чем им сравнивать ту же "белорусскую модель"?".*

В свою очередь, **Валентин Гефтер,** знаменитый правозащитник, директор московского Института прав человека, в беседе с вашим покорным слугой признался, что не верит *"в народное восстание вообще и в Беларуси в частности. Ни в югославский вариант, ни в грузинский".*

По его словам, даже изолированные режимы — типа саддамовского в Ираке, северокорейского, ливийского в разгар международных санкций — показывали завидную живучесть. А уж Беларусь особо не изолируешь...

*"Люди устают от революций. Они хотят надеяться и уповать на нечто простое и осязаемое — вроде сильного лидера, сильной руки,* — рассуждает, в свою очередь, президент фонда ИНДЕМ **Георгий Сатаров.** — *Ни Россия, ни Беларусь не являются исключением из общей закономерности, когда период революций сменяется постреволюционной эпохой. Нельзя ведь сказать, что народ Франции при Наполеоне не дозрел до демократии. Наполеон — типичная постреволюционная эпоха".*

Значит, следуя простой логике, за фазой отката надо ожидать новой демократической волны?

Совершенно верно, говорит маститый политолог Сатаров. И добавляет, что *"революции чаще случаются не тогда, когда совсем плохо, а когда становится меньше хорошего".*

Он приводит пример крушения Советского Союза. Ведь коммунистическая сверхдержава развалилась не в разгар народных бедствий, не в послевоенную разруху, например. А тогда, когда, *"подсев на нефтегазовую иглу"*, попыталась устроить застойный рай. Но истощила ресурсы — и не смогла обеспечить гражданам стандарты общества потребления на манер западных. А граждане-то уже привыкли к кое-какому благосостоянию...

Подобные, по выражению Сатарова, *"эндогенные факторы"* могут сработать и в России, и в Беларуси (где экономика, к слову, тоже во многом экстенсивна и завязана на нефтедоллары).

Хорошо, но кто же отдает власть просто так? И, если исключать насилие, кровь, есть ли у альтернативных кандидатов шансы на недемократичных выборах, когда заматеревшая верхушка не стесняясь врубает свой атомный административный ресурс?

На этот счет у Георгия Сатарова нашелся другой исторический пример. Пиночет в Чили проиграл выборы, когда его диктатура, казалось, достигла апогея. Когда он сконцентрировал в своих руках мощные административные рычаги и подчинил прессу.

А успех его противников, говорит аналитик, обеспечило то, что они по всей стране — *"по всей этой географической кишке на западном побережье Южной Америки"* — блестяще провели кампанию "от двери к двери".

*"Так что в принципе это можно делать",* — резюмировал собеседник. Конкретные же политические технологии с учетом специфики той или иной страны — это, по его словам, отдельный вопрос.

Правозащитник Валентин Гефтер, в свою очередь, резюмирует так: процесс перемен в постсоветском обществе долог и непрост. *"В то же время кто мог, например, в 1984 году, известном по роману Оруэлла, предвидеть крах СССР?".* На изменение белорусской ситуации, по мнению собеседника, также может неожиданно сработать комплекс факторов. Или, если хотите, скажется эффект слабого звена.

Например, вдруг просядет экономика. Или что-то вызреет в среде номенклатуры. Или...

*"Поэтому белорусская власть и жмет по всем направлениям,* — сказал Валентин Гефтер в интервью "Белорусским новостям". — *Это значит, что она видит опасность не только в нескольких малочисленных партиях... Да, пока она показывает недюжинную силу и чаще побеждает. Но в этом же — и ее слабость. Потому что при таком тотальном прессинге режим не может быть эффективным на всех направлениях".*

А уж если белорусская властная система даст трещину, то и Кремль может показать византийский нрав. Как подчеркивали мои московские собеседники, в команде полковника Путина не такие уж профаны, чтобы не иметь технологичных сценариев и потенциальных фигур на случай политического завихрения в братской стране.

Другое дело, что перемены в своей стране белорусам лучше делать все-таки не по заграничным сценариям.

"Никто не даст нам избавленья...". По дороге из Москвы у меня в голове крутился этот мотив.

*Москва — Минск.*

*("Белорусские новости".)*

